*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ*



# Наша слова




Газета выходзіць з сакавіка 1990 года

№ 16 (504) 18 КРАСАВІКА 2001 г.

## Дарагія сябры "Нашага слова"!

Сёння мы паведамляем вам вынікі падпісной кампаніі на другі квартал 2001 года. У гэтым квартале намаганнямі Сакратарыяту ТБМ, а таксама сяброў ТБМ у розных рэгіёнах краіны падпіска на нашу газету значна вырасла. Мы маем на сёння каля 3,5 тысяч падпісчыкаў. Падпіскай на газету "Наша слова" закрыты ўсе 117 раёнаў Беларусі. За актыўную працу па арганізацыі падпіскі Сакратарыят ТБМ выказвае падзяку сп. Місцюкевічу (Горадня), Трафімчык (Слонім), Мельніку (Ліда), Маліноўскаму (Бабруйск), Пяткевічу (Стоўбцы), Сырыцы (Баранавічы), Савічу (Пінск), сябрам ТБМ з Ліёзна і Ашмян. Сакратарыят нагадвае, што ўсе, хто хоча атрымаць падпіску на свае бібліятэкі на трэці квартал, мусяць прысладь падпісныя карткі ў Менск на Румянцава, 13.

| | Люты | Красавік | | |
|---|---|---|---|---|
| | | інд. | вед. | разам |
| **Берасцейская вобласць:** | | | | |
| Баранавічы р.в. | 15 | 25 | 13 | 38 |
| Бяроза р.в. | 10 | 8 | 4 | 12 |
| Белаазёрск р.в. | 2 | 2 | 1 | 1 |
| Бярэсце гор. | 43 | 18 | 2 | 20 |
| Ганцавічы р.в. | 1 | 2 | 5 | 7 |
| Драгічын р.в. | 2 | 2 | 1 | 3 |
| Жабінка р.в. | 1 | 2 | 18 | 20 |
| Іванава р.в. | 2 | 1 | 1 | 2 |
| Івацэвічы р.в. | 1 | 1 | 18 | 19 |
| Камянец р.в. | 26 | 23 | 49 | 72 |
| Кобрын гор. | 15 | 14 | 28 | 42 |
| Лунінец гор. | 5 | 4 | 1 | 5 |
| Ляхавічы р.в. | 1 | 1 | 1 | 2 |
| Маларыта р.в. | 1 | 2 | 1 | 3 |
| Пінск гор. | 27 | 39 | 63 | 102 |
| Пружаны р.в. | 6 | 8 | 1 | 9 |
| Столін р.в. | 3 | 2 | 1 | 3 |
| **Усяго:** | **161** | **151** | **210** | **361** |
| **Віцебская вобласць** | | | | |
| Бешанковічы р.в. | 2 | 2 | 18 | 20 |
| Браслаў р.в. | 2 | 2 | 1 | 3 |
| Віцебск гор. | 26 | 27 | 1 | 28 |
| Віцебск РВПС | 2 | - | 1 | 1 |
| Верхнедзвінск р.в | 2 | 6 | 1 | 7 |
| Глыбокае р.в. | 4 | 7 | 1 | 8 |
| Гарадок р.в. | 2 | 1 | 1 | 2 |
| Докшыцы р.в. | 1 | 1 | 1 | 2 |
| Дуброўня р.в. | 1 | 1 | 1 | 2 |
| Круляўшчызна | 2 | 3 | - | 3 |
| Ліёзна р.в. | 3 | 21 | 1 | 22 |
| Лепель р.в. | 1 | 1 | 1 | 2 |
| Міёры р.в. | 19 | 19 | - | 19 |
| Наваполацк гор. | 33 | 40 | - | 40 |
| Ворша гор. | 8 | 8 | 22 | 30 |
| Полацк гор. | 44 | 72 | 13 | 85 |
| Паставы р.в. | 6 | 4 | 2 | 6 |
| Расоны р.в. | 1 | 1 | 15 | 16 |
| Сянно р.в. | 1 | 1 | 1 | 2 |
| Талочын р.в. | 2 | 2 | 2 | 4 |
| Ушачы р.в. | 3 | 2 | 9 | 11 |
| Чашнікі р.в. | 2 | 2 | 1 | 3 |
| Шаркоўшчына р.в. | 10 | 9 | 1 | 10 |
| Шуміліна р.в. | 3 | 3 | 1 | 4 |
| **Усяго:** | **180** | **236** | **94** | **330** |
| **Менская вобласць** | | | | |
| Беразіно р.в. | 3 | 4 | 1 | 5 |
| Барысаў гор. | 10 | 8 | 39 | 47 |
| Вілейка гор. | 3 | 6 | 41 | 47 |
| Валожын гор. | 11 | 11 | 28 | 39 |
| Дзяржынск р.в. | 2 | 1 | 27 | 28 |
| Жодзіна гор. | 7 | 7 | 1 | 8 |
| Клецк р.в. | 3 | 2 | 42 | 44 |
| Крупкі р.в. | 1 | 1 | 1 | 2 |
| Капыль р.в. | 3 | 4 | 32 | 36 |
| Лагойск р.в. | 3 | 2 | 33 | 35 |
| Любань р.в. | 4 | 4 | 33 | 37 |
| Менск гор. | 452 | 455 | - | 455 |
| Менск РВПС | 15 | 12 | 54 | 66 |
| Маладэчна гор. | 18 | 18 | 68 | 86 |
| Мядзель | 15 | 12 | 2 | 14 |
| Пухавічы РВПС | 16 | 16 | 45 | 61 |
| Нясвіж р.в. | 4 | 4 | 15 | 19 |
| Смалявічы р.в. | 3 | 1 | 1 | 2 |
| Слуцк гор. | 8 | 11 | 38 | 49 |
| Салігорск гор. | 9 | 11 | 33 | 44 |
| Ст.Дарогі р.в. | 1 | - | 19 | 19 |
| Стоўбцы р.в. | 5 | 15 | 46 | 61 |
| Узда р.в. | 1 | 2 | 20 | 22 |
| Чэрвень р.в. | 8 | 7 | 1 | 8 |
| Фаніпаль | 1 | 1 | - | 1 |
| **Усяго:** | **606** | **615** | **620** | **1235** |

| | Люты | Красавік | | |
|---|---|---|---|---|
| | | інд. | вед. | разам |
| **Гомельская вобласць:** | | | | |
| Буда-Кашалёва | 2 | 3 | 2 | 5 |
| Брагін р.в. | 1 | 1 | 2 | 3 |
| Ветка р.в. | 1 | 1 | - | 1 |
| Гомель гор. | 45 | 43 | 13 | 56 |
| Гомель РВПС | 1 | 1 | - | 1 |
| Добруш р.в. | 1 | 1 | 2 | 3 |
| Ельск р.в. | 1 | 1 | 1 | 2 |
| Жыткавічы р.в. | 41 | 46 | - | 46 |
| Жлобін гор. | 5 | 5 | 42 | 47 |
| Калінкавічы гор. | 1 | 1 | 45 | 46 |
| Карма р.в. | 1 | 1 | 1 | 2 |
| Лельчыцы р.в. | 23 | 23 | 19 | 42 |
| Лоеў р.в. | 1 | 1 | 1 | 2 |
| Мазыр гор. | 6 | 13 | 22 | 35 |
| Акцябарскі р.в. | 1 | 2 | - | 2 |
| Нароўля р.в. | 1 | 1 | 1 | 2 |
| Петрыкаў р.в. | 2 | 2 | 47 | 49 |
| Рэчыца гор. | 3 | 3 | 28 | 31 |
| Рагачоў гор. | 2 | 3 | 2 | 5 |
| Светлагорск гор. | 5 | 4 | 35 | 39 |
| Хойнікі р.в. | 1 | 1 | 3 | 4 |
| Чачэрск р.в. | 1 | 1 | 8 | 9 |
| **Усяго:** | **146** | **159** | **273** | **432** |
| **Гарадзенская вобласць** | | | | |
| Бераставіца | 3 | 3 | 1 | 4 |
| Ваўкавыск гор. | 15 | 15 | 2 | 17 |
| Воранава р.в. | 1 | 3 | 18 | 21 |
| Горадня гор. | 114 | 117 | 3 | 120 |
| Горадня РВПС | 33 | 11 | 54 | 65 |
| Дзятлава р.в. | 7 | 6 | 24 | 30 |
| Зэльва р.в. | 27 | 8 | 1 | 9 |
| Іўе р.в. | 1 | 27 | 19 | 46 |
| Карэлічы р.в. | 3 | 4 | 1 | 5 |
| Масты р.в. | 9 | 12 | 25 | 37 |
| Навагрудак гор. | 12 | 9 | 57 | 66 |
| Астравец р.в. | 3 | 3 | 1 | 4 |
| Ашмяны р.в. | 13 | 32 | 19 | 51 |
| Смаргонь гор. | 8 | 13 | 18 | 31 |
| Слонім гор. | 21 | 86 | 10 | 96 |
| Свіслач р.в. | 3 | 3 | 1 | 4 |
| Шчучын р.в. | 2 | 6 | 18 | 24 |
| Ліда | 24 | 35 | 120 | 155 |
| **Усяго:** | **299** | **403** | **382** | **785** |
| **Магілёўская вобласць** | | | | |
| Бабруйск гор. | 7 | 27 | - | 27 |
| Бабруйск РВПС | - | - | 26 | 26 |
| Бялынічы р.в. | 2 | 6 | 1 | 7 |
| Быхаў р.в. | 2 | 2 | 1 | 3 |
| Глуск р.в. | 1 | 1 | 1 | 2 |
| Горкі гор. | 25 | 25 | 29 | 54 |
| Дрыбін р.в. | 1 | 1 | 1 | 2 |
| Кіраўск р.в. | 1 | 1 | 1 | 2 |
| Клічаў р.в. | 1 | 1 | 1 | 2 |
| Краснаполле р.в. | 1 | 1 | 1 | 2 |
| Крычаў | 1 | 1 | 1 | 2 |
| Клімавічы р.в. | 6 | 3 | 18 | 21 |
| Касцюковічы р.в. | 1 | 2 | 25 | 27 |
| Круглае р.в. | 4 | 4 | 2 | 6 |
| Мсціслаў р.в. | 5 | 5 | 24 | 29 |
| Магілёў гор. | 26 | 23 | 1 | 24 |
| Магілёў РВПС | - | - | 38 | 38 |
| Асіповічы гор. | 13 | 11 | 35 | 46 |
| Слаўгарад р.в. | 1 | 1 | 1 | 2 |
| Хоцімск р.в. | 1 | 1 | 1 | 2 |
| Чэрыкаў р.в. | 3 | 3 | 1 | 4 |
| Чавусы р.в. | 1 | 2 | 1 | 3 |
| Шклоў р.в. | 6 | 6 | 1 | 7 |
| **Усяго:** | **109** | **127** | **211** | **338** |
| **Усяго па краіне** | **1501** | **1701** | **1780** | **3481** |



БЕЛОРУССКОЕ ОБЩЕСТВЕННО-КУЛЬТУРНОЕ ТОВАРИЩЕСТВО
Г.САНКТ-ПЕТЕРБУРГ
БЕЛАРУСКАЕ ГРАМАДСКА – КУЛЬТУРНАЕ ТАВАРЫСТВА
Г.САНКТ – ПЕЦЯРБУРГ
ST.PETERSBURG SOCIETY OF BYELORUSSIAN CULTURE
194291, Санкт – Петербург, пр. Луначарского, 33 – 1 – 234
тел. (812) 510 – 60 – 09 факс (812) 559 – 45 – 73

## Шаноўная рэдакцыя!

*По даручэнні сходу чальцоў Беларускага грамадска-культурнага таварыства ў Санкт-Пецярбургу (БГКТ у СПб) ад 1 красавіка 2001 г. прашу змясціць у Вашай газеце наступнае паведамленне: "У газеце "Голас Радзімы" ад 21 сакавіка г. г. (№312. –С.3) змешчаны артыкул "Беларусы Санкт-Пецярбурга аб'ядналіся" з паведамленнем аб стварэнні ў Пецярбургу Нацыянальна-культурнай аўтаноміі "С. – Пецярбурга". Абвяшчаю, што БГКТ у СПб існуе самастойна без аніякай падтрымкі ўладаў Расеі і, тым бо больш Беларусі ўжо 12 год і праводзіць пэўную працу па распаўсюджванню беларускай мовы і культуры, насуперак яе дыскрымінацыі. Ніякага дачынення БГКТ у СПб да гэтай Нацыянальна-культурнай аўтаноміі не мае, уваходзіць толькі ў Міжрэгіянальную асацыяцыю беларусаў Расеі (з 1999 г.) і ў ЗБС "Бацькаўшчына" з дня яе заснавання, у іншых з'ездах беларусаў замежжа апроч III з'езду ЗБС "Бацькаўшчына" прынімаць удзел не збіраецца.*

*Ад імя сходу чальцоў БГКТ у СПб*
*намеснік старшыні Міжрэгіянальнай асацыяцыі беларусаў Расеі,*
*старшыня рады БГКТ у СПб Валянцін Грыцкевіч.*

*1 красавіка 2001 года. СПб.*

*Спадару Я.Сямашку галоўнаму рэдактару газеты*
*"Беларусская нива"*
*220013, г. Мінска, вул. Б. Хмяльніцкага, 10-а.*

**Паважаны спадар Сямашка!**

Як кіраўнік Таварыства, выказваю ўдзячнасць за тое, што Вы ўрэшце зрабілі ласку і адказалі на наш ліст. Паводле Вашага адказу хацеў бы заўважыць, як слушна лічаць беластоцкія беларусы, паны жывуць за Віслай. І таму зварот да мяне як да пана не зразумелы. Нагадаю, што ў сучаснай практыцы вельмі натуральна бытуе добрае і старажытнае слова – спадар.

Надзвычай непераканаўча гучаць Вашыя аргументы ў абарону рускай мовы на старонках "Белорусской нивы". Вы ведаеце пра тое, што навучанне ва ўсіх сярэдніх спецыяльных і вышэйшых навучальных установах сельскагаспадарчага профілю ў нашай краіне вядзецца на рускай мове. але ці задумаліся Вы над тым, што згодна з вынікам перапісу насельніцтва 1999 года з 3 млн. 83 тысяч 700 чалавек вясковага насельніцтва 89,2% лічаць свёй роднай беларускую мову, і толькі 3,2% - рускую. У штодзённым жыцці 74,5% вясковых жыхароў карыстаюцца беларускай мовай. І толькі 20,7% вясковых жыхароў размаўляюць у сям'і на рускай мове. гэта ўсё тыя ж навучэнцы рускамоўных СПТВ, сельгастэхнікумаў і аграрных ВНУ, якія дзякуючы палітыцы выціскання беларускай мовы, што праводзіцца рускамоўнымі газетамі, у тым ліку і "Белорусской нивой", губляюць сувязь са сваімі каранямі.

Лічу, што Вашай газеце, разам з іншымі праблемамі, варта падымаць пытанне, чаму ў нашай незалежнай дзяржаве выпускнікі вясковых школ, якія атрымліваюць сярэднюю адукацыю на беларускай мове і дома штодня размаўляюць па-беларуску, не маюць магчымасці працягваць вучыцца на роднай мове.

Выпадковыя матэрыялы на беларускай мове, якія зрэдку з'яўляюцца ў газеце, не могуць запоўніць духоўны вакум селяніна.

Акрамя таго, мне вядома, што на абмеркаванні пытання мовы ў рэдакцыі 26 чэрвеня 2000 года, дзе прысутнічаў цяперашні дэпутат Палаты прадстаўнікоў Іван Пашкевіч, большасць супрацоўнікаў "Белорусской нивы" выказалася за тое, каб газета выходзіла па-беларуску. Асабіста Вы, спадар Сямашка, аказаліся, на жаль, у ліку той меншасці, што палічыла пераход газеты на беларускую мову – родную для пераважнай большасці вясковага насельніцтва, згубай для выдання.

І на заканчэнне жадаю калектыву "Белорусской нивы" адстаяць сваё права выпускаць газету на беларускай мове, а Вам, спадар рэдактар, я раю для пачатку вырабіць штамп рэдакцыі на беларускай мове, як гэта робяць іншыя высокія ўстановы, да прыкладу, Міністэрства абароны.

З павагай

**Старшыня ГА "ТБМ імя Ф.Скарыны"**
**Алег Трусаў.**

## СЁЛЕТА ТАВАРЫСТВУ БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ імя Ф. СКАРЫНЫ ВІЛЕНСКАГА КРАЮ – 10 год!

Таварыства ўтворана ў траўні 1991 года, а зарэгістравана ў Міністэрстве юстыцыі Літвы 25 сакавіка 1992 года, якраз на Звеставанне, на Дзень Незалежнасці БНР.

Гэтую дату, юбілей, мы будзем адзначаць добрымі справамі па адраджэнню беларушчыны як у Літве, так і на Беларусі. Плануецца ў гэтым годзе на базе гісторычна-этнаграфічнага музея "ЗАСЦЯНКОВАЯ ХАТКА" правесці мерапрыемства на тэму: "КРЫЖОВАЯ ДАРОГА", а таксама падрыхтаваць кніжку пад назовам "ЗАСЦЯНКОВАЯ ХАТКА" ды шэраг іншых мерапрыемстваў.

*Ю. Гіль.*



№ 16 (504) 18 КРАСАВІКА 2001 г. Наша слова

Павел Сцяцко

# Культура мовы

**Пра некаторыя моўныя адзінкі тэрміналагічнага кшталту**

***Чы`сцец і чысцілішча.*** Словы ***чы`сцец*** як адпаведнік рас. ***чистилище*** падае "Русско-белорусский словарь" пад рэдакцыяй Я. Коласа, К. Крапівы, П. Глебкі (М., 1953), на с. 760 чытаем: "Чистилище, ср. рел., перен. чысцец, род. чыстца". "Беларуска-рускі слоўнік" пад рэдакцыяй К. Крапівы (М., 1962) ужо не фіксуе гэтага слова, у ім бачым толькі: "Чысцілішча ср. рел. Чистилище" (С.1017). Відаць, гэта было зроблена дзеля таго, каб беларускае ***чы`сцец*** не "блыталася" з рас. ***чистец***. Але ж гэтаму ***чистец*** адпавядае сваё слова. РБС-53 засведчыў: "Чистец бот. – чысцік, -ку, м." (С.760). Бачым у гэтым слоўніку і наступнае: "Чистик зоол. – чысцік, -ка, м.". РБС-82 фіксуе ўжо два словы: "Чистилище ср. рел., перен. чысцілішча, чысцец, род. чыстца м.; был в чистилище – быў у чы'стцы" (Т.2.С.593). паўтарылі гэта і наступныя перавыданні РБС (РБС-99). Т.3.С.728).

Падаюць слова ***чысцец*** і тлумачальныя слоўнікі беларускай мовы: "Чысцец, -стца, м. Тое, што і чысцілішча / у вобразным ужыв." (ТСБМ. Т.5. Кн.2.Мн.,1984, с.333; ТСБЛМ, Мн., 1996, с. 751).

Сучасны нацыянальны друк актыўна выкарыстоўвае адметнабеларускае слова ***чы`сцец***: "Я. Зэльвіч. Чысцец для мовы" (ЛіМ. 10.04.1998). Перавагу яго перад ***чысцілішча*** бачым і ў перакладных слоўніках, дзе ў ілюстрацыйных прыкладах падаецца толькі сваямоўнае слова: РБС-82, РБС-93: ***был в чистилище – быў у чыстцы.***

***Заўзятар і балельшчык.*** Слова ***"балельшчык"*** – пазычанне з расейскай мовы, утварэнне ад ***болеть (боле-льщик)***. У беларускай мове выкарыстоўваюцца іншакаранёвыя іх адпаведнікі: "Болеть несов. 1. (быть больным) хварэць; 2. (чем) хварэць; 3. Перен. Хварэць (за каго, што); болеть душой (сердцем) – хварэць душой (сэрцам). (РБС-93. Т. 3. С. 115).

РБС-53 падае гэтае слова без перакладу – у абедзвюх частках слоўнікавага артыкула: "Болельщик – балельшчык". У беларускай частцы артыкула РБС-82 бачым два словы: "Болельщик разг. – балельшчык, прыхільнік" (Т.1.С.67). Паўторана гэта і ў РБС-93 (Т. 1.С.115). Тлумачальны слоўнік беларускай мовы" (Т. 1.Мн.,1977.С.333) падае яго з наступным значэннем: "Балельшчык, -а, м. Разм. Заўзяты аматар спартыўных спаборніцтваў". Ад спалучэння ***"заўзяты аматар"*** узнікае ***"заўзятар".***

У сучасным нацыянальным друку яно актыўна выкарыстоўваецца. Слова ***заўзятар*** уседамляецца як утварэнне ад ***заўзяты*** – *'які з захапленнем займаецца чым-н., аддаецца чаму-н…".* (ТСБЛМ.С.229). "Той бедны заўзятар пераклю-чыўся на футбол." (ЛіМ. 7. 08. 1998.С.16). "Гэта не акцыя БНФ. Гэта проста лідскія заўзятары футболу". (Наша слова. 24. 05. 1998).

***Канцэпцыйны і канцэптуальны.*** Слова ***канцэптуальны*** ў "Тлумачальным слоўніку беларускай літаратурнай мовы" (С.275) падаецца з значэннем *'які мае сур'ёзную самастойную канцэпцыю'* і разглядаецца як вытворнае ад ***"канцэпцыя // прым. канцэптуальны".*** Але ж як мог утварыцца прыметнік ***канцэптуальны*** ад назоўніка ***канцэпцыя***? Дзе яго ўтваральная аснова? І які словаўтваральны сродак (фармант)? У прыметніку ***канцэптуальны*** супольная з утваральным назоўнікам ***канцэпцыя*** частка ***канцэп-***, да яе далучыўся фармант – ***туальны.*** Але ж такая словаўтваральная аснова не існуе, як і суфікс. Перад намі – штучнае "стварэнне". Яго семантыка не вынікае ні з згаданае асновы, ні з далучанага да яе штучнага фарманта – ***туальны.***

Натуральна ж прыметнікі ўтвараюцца шляхам далучэння да асновы назоўніка адпаведнага суфікса. Напрыклад: ***канфігурацыя > канфігурацыйны, кантамінацыя > кантамінацыйны, кантрыбуцыя > кантрыбуцыйны, канфрантацыя > канфрантацыйны.*** Таму натуральная форма прыметніка, утворанага ад назоўніка ***канцэпцыя - канцэпцыйны***, дзе да асновы ***канцэпцый-(а)*** далучаны суфікс – ***н-*** (разам з канчаткам ***–ы***): ***канцэпцый-н-ы.*** Як і ў згаданых словах ***кантамінацыйны, канфігурацый-ны*** і пад. Такая форма ***канцэпцыйны*** натуральна стасуецца з адпаведнай семантыкай *'які мае … канцэпцыю'.*

Менавіта такую форму прыметніка ад назоўніка ***канцэпцыя*** выкарыстоўвае нацыянальны беларускі друк. Вось адзін з прыкладаў: "Руская гістарыяграфія, навуковая і папулярная літаратура ніколі не абмяжоўваюць гісторыю рускага народа ад эпохі Кіеўскай Русі і папярэдняга перыяду. Не абмяжоўваюць ні тэрміналагічна, ні канцэпцыйна ў дачыненні не толькі да XIII, але і да VI-XII стагоддзяў". (Наша слова. № 8 (496). 21 лютага 2001. С.7).

***Палатніна і палотнішча.*** Слова ***"палотнішча"*** – утварэнне ад палатно з суфіксам ***–ішч(а).*** Гэты суфікс звычайна надае словам павелічальна-ўзмацняльнае значэнне: ***дом – дамішча, вецер – вятрышча.*** Утварэнні з суфіксам ***–ін(а)*** маюць, як правіла, вылучальнае, канкрэтна-прадметнае значэнне: ***жывёла – жывёліна, лес – лясіна*** *'асобнае дрэва ў лесе'.*

Гэта пацвярджае і "Тлумачальны слоўнік беларускай мовы" (Т.3. Мн., 1979.С.640): "Палотнішча, -а, н. Вялікі кавалак матэрыялу". "Палатніна, -ы, ж. 1. Кавалак або полка палатна; асобны выраб з палатна. Нехта з хлопцаў знайшоў палатніну – настольнік ці што, - і мы абгарнулі крывавае цяжкае цела. Брыль. 2. Дамашняе льнянае палатно; адзенне з такога палатна. [Кастусь:] – Палатніна пачала выходзіць з моды. Караткевіч". (Тамсама, с. 628).

Адсюль відавочна, што слова ***палатніна*** натуральнае і пры абазначэнні дэталі сцяга ды пад. Але ж замест свайго тут было замацаванае усесаюзнае ***палотнішча***. Рас. ***полотнище*** мае наступныя беларускія адпаведнікі: 1. (кусок ткани в натуральную ширину) – полка, палатно; парус в четыре полотнища – парус у чатыры полкі; 2. (знамени и т.п.) – палотнішча; 3. (инструмента) спец. палатно; полотнище пилы – палатно пілы; 4. (у ворот) – створка: повесить п. ворот – павесіць створкі варот.. (РБС-82. Т.2.С.133). Як бачым, скрозь, за выняткам тэрміналагічнага *'частка сцяга'*, у беларускай мове ёсць свае адпаведнікі. Улічваючы згаданае, сучасны нацыянальны друк на месцы "усесаюзнага стандарта" ***палотнішча*** выкарыстоўвае уласнае ***палатніна.***

***Хуткавымаўлянка і скорагаворка.*** Слова "скорагаворка" падаецца ў Тлумачальным слоўніку з наступным апісаннем яго значэння: "Скорагаворка, ж. 1. Хуткае, паспешлівае маўленне; 2. Жартаўлівая фраза, пабудаваная на спалучэнні гукаў, якія робяць цяжкім хуткае вымаўленне". (ТСБМ. Т. 5. Кн. 1. Мн., 1983. С. 178). Як бачым, у апісанні значэння гэтага слова нідзе не выкарыстоўваюцца складнікі лексемы ***скорагаворка***, што таксама сведчыць пра штучнасць яе ў беларускай мове. Дамінавальным для высвятлення гэтай з'явы ёсць ***"хуткае вымаўленне"***, на падставе чаго ўзнікла сваямоўная назва хуткавымаўлянка ***(ад "хутка вымаўлянае" > хуткавымаўлян-ка).*** У друку сустракаем ***хуткапрамаўлялка***: "Гэтая ўласцівасць нашага слыху і падказала мне падаць птушыныя песні ў выглядзе загадак-хуткапрамаўлялак…" (Роднае слова. 1999. №3. С. 168).

***Хуткапрамаўлялка*** ўтворана з выкарыстаннем суфікса ***–лк-а***, але яму ўласцівае значэнне прылады дзеяння ***(веяць > веялка, шатравалка, абганялка),*** а не аб'екта ці выніку дзеяння. Таму мусіць быць форма хуткапрамаўлянка. Больш дастасоўным да сематыкі трэба лічыць форму ***хуткавымаўлянка*** *'хутка вымаўляны тэкст'.*

*(Працяг у наступных нумарах.)*

# Старшыні Рады БНР

## Івонцы Сурвіле - 65 гадоў



Сакратарыят ТБМ імя Францішка Скарыны сардэчна віншуе Івонку Сурвілу - старшыню Рады Беларускай Народнай Рэспублікі, рэпрэзантанта № 1 вольнай Беларусі ў Вольным Свеце з 65-годдзем.

Сакратарыят адзначае выключны ўклад спадарыні Івонкі ў станаўленне беларускай справы і беларускага слова ўва ўсім свеце.

Спадарыня Івонка Сурвіла высока нясе сцяг Беларускага Адраджэння і дай ёй Бог сілы на нашым агульным шляху да нашай агульнай Беларусі.

Жыве Беларусь.

## Беларускасць змагаецца і перамагае

У народным судзе Ленінскага раёна г. Горадні вынесены прысуд па справе арганізатараў недазволенага мясцовымі ўладамі "Дня волі" 25 сакавіка. Да гонару суддзі Аляксандра Ярашэвіча, ён аб'ектыўна падышоў да разгляду справы і вынес апраўдальны вырак намесніку старшыні Гарадзенскай арганізацыі "Маладая Грамада" Святлане Нех. Ні сцверджанні міліцыянтаў – сведкаў, ні відэаздымкі не маглі дасведчыць яе віноўнасць. Святлана Нех трымалася на працэсе мужна і паводзіла сябе спакойна. Адным з яе патрабаванняў было вядзенне працэсу па-беларуску.

Суддзя паабяцаў, што будзе падсудны задаваць пытанні на беларускай мове, і стрымаў сваё слова.

Высветлілася, што Аляксандр Ярашэвіч добра валодае роднаю моваю, і на гэтай мове можна весці любы судовы працэс. Беларуская мова і тут прыдатная.

Гэта ўжо не першая судовая справа дваццацігадовай змагаркі за Беларусь. За ўдзел у восенскіх акцыях пратэсту апазіцыі ў Горадні Святлана Нех была пакарана 150 мінімальнымі заробкамі. Кіраўніцтва Цэнтра выхаваўчай працы, дзе Святлана працавала, змусіла яе звольніцца.

Непросты сёння час. А яшчэ больш складаны шлях да Беларусі і беларускасці, як у нашай моладзі, так і чыноўнікаў.

*Язэп Палубятка.*

## Тыдзень беларускай мовы і літаратуры

У СШ №3 г. Масты прайшоў тыдзень беларускай мовы і літаратуры. У ім прынялі ўдзел вучні 5-11-х класаў. Кожны клас меў сваё заданне. Прыкладам, дзяўчаты і хлопцы 5-х класаў паставілі вельмі цікавую казку паводле нацыянальных беларускіх звычаяў і традыцый. Вучні 9-х класаў з дапамогай настаўнікаў зрабілі падборку вельмі цікавых матэрыялаў пра лёс знакамітых беларускіх песеннікаў. На вечарыне гучалі іх вершы. Таксама адбылася сустрэча вучняў школы з празаікам Язэпам Палубяткам і краязнаўцам Аляксеем Себасцянам. У мерапрыемствах удзельнічалі ўсе класы, нават самыя юныя. Яны намалявалі плакаты прысвечаныя гэтаму тыдню. Вучні 11-х класаў таксама не засталіся ўбаку. Яны наладзілі і правялі віктарыну на тэму: "Ці быць беларускай мове?"

Безумоўна, шчырай падзякі заслугоўваюць педагогі, пад кіраўніцтвам якіх праходзілі мерапрыемствы.

*Алена Мялешка.*

## Беларусы ў Літве

"Беларуская прысутнасць у Літве" так называецца артыкул прэзідэнта Згуртавання беларускіх грамадскіх арганізацыяў Літвы сп. Лявона Мурашкі, змешчаны ў газеце "Голас Радзімы" (№№ 6-8, 2001). Пэўныя факты з жыцця беларусаў Літвы падаюцца там не зусім так, як яно ёсць у сапраўднасці. Так, у прыватнасці, аўтар згаданага артыкула піша: "Стараннем Згуртавання і асабістымі намаганнямі вечнай памяці Сцяпана Дуж-Душэўскага ў Вільнюсе беларусам-каталікам быў аддадзены касцёл Св. Барталамея, дзе ксяндзом з'яўляецца Ян Шуткевіч."

Хачу заявіць, што ні Сцяпан Дуж-Душэўскі, ні Згуртаванне, якое ачольвае сп. Мурашка, да адкрыцця беларускага касцёла ў Вільні ніякага дачынення не мелі. Гэта зрабілі зусім іншыя людзі пад кіраўніцтвам шаноўнага ксяндза Яна Шуткевіча. Амаль 4 месяцы, штодня, у дождж і ў спякоту, стаялі, укленчыўшы на бруку перад касцёлам, беларусы, палякі, літоўцы, маліліся і патрабавалі ў прадпрымальніка Навіцкаса, каб той пакінуў апаганены "саветамі" святыню. Маліліся таксама ў Вострай Браме, просячы дапамогі ў адкрыцці касцёлу ў Маткі Боскай Вастрабрамскай. 5 разоў хадзілі дэлегацыяй да біскупа Тунайціса, пісалі ў Сойм да Ландсбергіса. З Боскай дапамогай барацьба вернікаў за беларускі касцёл закончылася іхняй перамогай.

*Старшыня ТБМ Віленскага краю Юры Гіль*

## "Ветразь надзеі"

У Слоніме выйшла новае выданне "Ветразь надзеі". Рамантычная назва газеты адпавядае як калектыву яе рэдкалегіі, так і юным карэспандэнтам. Газета закранае пытанні маралі, этыкі, абуджае ў сваіх чытачоў цікаўнасць, дапытлівасць, а таксама любоў да роднай краіны і нашай беларускай мовы. Газету выдае Слонімская суполка ТБМ.

У добры шлях. "Ветразь надзеі".

*Людміла Грыгаровіч.*



Ветразь надзеі

Шаноўныя СЯБРЫ!

## Беларуская Аўтакефальная Праваслаўная Царква Св. Апостала Пятра і Паўла

### Адэлаіда Аўстралія

Святкаванне дня незалежнасці Беларусі 25-га сакавіка 2001 г., нядзеля.

Сястрыцтва вельмі прыгожа прыбрала Царкву жывымі кветкамі. Божая служба пачалася а 10 гадзіне рана, Царква напоўнілася прыхаджанамі.





**У беларускай царкве ў Аўстраліі**

Царкоўны хор спяваў вельмі прыгожа. Падчас літургіі пасля Евангелі айцец Пратаярэй Пятро Касацкі сказаў вельмі чулае казанне. Пасля заканчэння літургіі пачаўся малебень за Беларусь, на малебені былі трыманыя сцягі беларускі і аўстралійскі, трымалі Георгі Шчурко малодшы і Камінскі. Хор адспяваў Магутны Божа, Многія лета Беларусі і яе народу, другі раз Аўстралі і яе народу. Быў запрошаны ад Аўстралійскага Ураду (Mr. Michael Atkinson) ён быў на Божай службе і малебені. Святар прачытаўшы Евангелію, зноў сказаў пропаведзь за Беларусь, вельмі чулую, кожнаму зайшло ў душу. Пасля малебені ўсе пайшлі ў прыцаркоўную залу. Прысутных было 90 асоб.

Старшыня парафіяльнай рады Міхась Шчурко малодшы, папрасіў заняць месцы. Айцец Пратаярэй Пятро Касацкі папрасіў усіх устаць, адспяваў малітву за Беларусь і яе народ, на канцы "Ойча наш" і дабраславіў ежу на агульным стале, якую падрыхтавала Сястрыцтва вельмі смачна. Хор адспяваў два гімны Аўстралійскі "Advnce Australia Fair" і Беларускі "Мы выйдзем шчыльнымі радамі". Міхась Шчурко прывітаў усіх з днём незалежнасці Беларусі і папрасіў паважанага госця да мікрафону. Mr. Michael Atkinson таксама ўсіх прывітаў з днём Незалежнасці. Па заканчэнні прамоў, усе пайшлі набіраць ежу. Калі ўсе паелі, пачалася ўрачыстая частка Мікола Кандрусік, папрасіў Царкоўны хор заспяваць песню "Ідуць жаўнеры беларусы" з дапамогаю акардыёна. Спадарыня Юршо Жэня расказала два вершы "Дудар" і "Пагоня", воплескі. Наступныя дзве песні хор выканаў з дапамогаю Міколы Кандрусіка на акардыёне "Дні прыходзяць, дні праходзяць, дні лятуць" і "Ручнікі". Акавіты Уладзімір расказаў два вершы "Прысяга" словы А. Арсеневай, і "Роздум" аб лёсе Беларусі словы Эдуарда Яромава, Менск.

Хор праспяваў "Кланяюсь табе мама" з дапамогай акрдыёна. Астатню песню выканаў Мікола Кандрусік. Песня "Мама", сола пад акрдыён.

Вельмі весела правялі час аж да 5 гадзіны вечара.

*Пісаў У. Акавіты.*



**Царкоўны хорспяваебеларускія гімны**

## "Мы вольна выйшлі на прасцяг…"

**…Сцяг незалежнасці ўзнімай – мар аб найлепшым цудзе: садоў, лясоў, азёраў край калоніяй не будзе.**

***("Пад вольным сцягам" Васіль Жуковіч)***

Узнімай сцяг незалежнасці! Так заклікае паэт кожнага асобна і ўсіх разам. Бо незалежнасць – гэта цяпер учынак. Незалежнасць – гэта ўнутраная свабода, калі можаш без прымусу пайсці туды, дзе атрымаеш асалоду, дзе больш цікавей і за гэта не будзе праследу. Незалежнасць – гэта вольная краіна і вольная кожная асоба ў ёй. Незалежнасць – ні ад кога не за-ле-жу.

Па ініцыятыве ТБК традыцыйна ўжо больш дзесяці гадоў адзначаецца самае Вялікае Свята – 25 сакавіка. Утульная зала поўная асобаў. Упрыгожвала залю выстава "Гонар беларускай нацыі", партрэты дзеячоў беларускай культуры – А. Грыцкевіча, Р. Гарэцка, З. Пазняка, Хв. Нюнькі і іншых. Працы Маргарыты Стральчэні. З кожным разам яна ўдасканальвае сваё майстэрства. Яна з сястрой Эміліяй падрыхтавалі і канцэртную праграму, спявалі беларускія, літоўскія і яўрэйскія песні. А. Старавойтаў выканаў песню "Магутны Божа" і на словы З. Пазняка – "Гучанне анёлскага голасу". Чыталі вершы Н. Гілевіча, М. Багдановіча, Я. Купалы, В. Шпіна, В. Жуковіча, асабліва крануў верш "Споведзь" малавядомага аўтара і "Святыня" Ф. Шкірманкова, надрукаваны ў "Народнай волі". Дэкламатары – Маргарыта і Эмілія Стральчэні, Л. Мілаш і Алег Раманчук у нацыянальных строях. Выступіў госць з Менску – ганаровы сябар ТБК прафесар Анатоль Грыцкевіч. Ён традыцыйна ўжо шмат гадоў удзяльнічае ў свяце ў Таварыстве ў Вільні. Яго тут заўсёды рады бачыць. Другі прамоўца Стасіс Каўшыніс – адказны сакратар Літоўскай асацыяцыі па правах чалавека. Была наладжана выстава кніг выдавецтва ТБК, а "артысты" атрымалі ў падарунак і кожны – юбілейны 500 нумар "Нашага слова". І надвор'е спрыяла, сонечнае, чуць марозік. Хв. Нюнька зачытаў прывітанні ад Раісы Жук-Грышкевіч, Івонкі Сурвілы, С. Шарэцкага, ЗБС "Бацькаўшчына". У сакавіку нарадзіўся і трагічная дата смерці драматурга Францішка Аляхновіча, пра яго распавёў Хв. Нюнька. Пра Францішка Багушэвіча – Л. Мілаш. "Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі" разам з "Нашым словам" звярнуліся ўжо ў каторы раз мы да нашых суайчыннікаў Вільні.

Вельмі прыемна і радасна – падрастае моладзь не-за-леж-на-я, самастойная. З гонарам канстатуюць – мы нашчадкі славутых Фр. Скарыны, Фр. Багушэвіча. У нас ёсць В. Быкаў, У. Караткевіч, Н. Гілевіч, Р. Барадулін, А. Марачкін, Купава, В. Скарабагатаў і шмат другіх сусветна вядомых асобаў.

Жыве Беларусь!

*Леакадзія Мілаш*
*г. Вільня.*

## Вуліца імя Мірона

У Лаварышках маленькім літоўскім мястэчку на мяжы з Беларуссю, ёсць ужо вуліцы трох слынных беларусаў: Тарашкевіча, Скарыны і … Мірона. Так, тагога самага няўлоўнага беларускага патрыёта Мірона, які ўжо каторы год дзейнічае ў суседняй з Лаварышкамі Віцебшчыне. Дзейнічае Мірон дзёрзка, смела і кемліва. Гэтак на мяжы 20 і 21 ст. ст., на Каляды, ён на вачах у гараджанаў вывесіў на непамернай вышыні агромістую бел-чырвона-белую палатніну. На доле яго чакалі міліцыянты, аднак Мірон, як нічога ніякага, спусціўся ўніз і раптам знік. Сп. Зянон Пазняк, ацэньваючы дзейнасць Мірона, сказаў "Надыйдзе час і інкогніта з Мірона будзе знятае – ён першы будзе ўзнімаць сцяг незалежнай Беларусі!"

*Юры Гіль.*

## Адукацыйныя семінары для настаўнікаў Меншчыны

Адукацыйны цэнтар "ПОСТ" на працягу сакавіка – жніўня 2001 г. праводзіць цыкль семінараў па міжкультурнай адукацыі для настаўнікаў гісторыі, сацыяльных педагогаў, класных кіраўнікоў г. Менска і Менскай вобласці. Першы падобны семінар "Міжкультурная адукацыя ў працэсе навучання ў школе" прайшоў нядаўна на базе Менскага абласнога інстытуту павышэння кваліфікацыі і перападрыхтоўкі кіраўнікоў і спецыялістаў адукацыі. На ім былі разгледжаныя розныя аспекты міжкультурнай адукацыі (прынцыпы, змест, формы і метады) і магчымыя шляхі яе выкарыстання ў школьнай сістэме. Наступны семінар па тэме "Роля і месца міжкультурнай адукацыі ў выхаваўчым працэсе" для класных кіраўнікоў сярэдніх школаў г. Менска і Мескай вобласці адбудзецца з 2 па 5 траўня. (Па пытаннях удзелу ў семінарах звяртацца ў Адукацыйны цэнтар "ПОСТ" (220028, г.Менск, а/с 63, тэл./факс 286-03-66, E-mail: center post@tut.by).

# КАЛЯНДАР КРАСАВІКА

## "Мінскаму лістку – 115 гадоў"

Першая на Беларусі прыватная грамадска-палітычная і літаратурная газета "Минский листок" распачала выходзіць у Менску з 2(14).04.1886 года і існавала да 31.10(13.11).1902 г. Яе перыядычнасць складала 2-3 разы на месяц, а заснавальнікам выступіў І.П.Фацінскі. выданне змяшчала матэрыялы пра мясцовае жыццё, друкавала матэрыялы пра сацыяльна- эканамічнае становішча ў Расейскай імперыі і за мяжою. Не аднойчы пасля таго як на старонках газеты змяшчаліся беларускія матэрыялы, яе кіраўніцтва падвяргалася адміністрацыйнаму пераследу, як з боку цэнзуры так і губернскіх уладаў. Гэтае выданне ў пэўнай ступені падтрымлівала развіццё беларускай мовы і літаратуры. Як адзначаюць даследчыкі "Минский листок" друкаваў рэцэнзіі на беларускі пераклад Ядвігіным Ш. апавяданне "Сігнал" У. Гаршына, творы Янкі Лучыны, Каруся Каганца, А.Бярозы, Р.Цягло, А.Шункевіча (Марозіка), мясцовыя народныя казкі, легенды, паданні, песні. Трэба адзначыць, што ўпершыню 16 траўня 1889 года ў газеце была змешчана ананімная паэма "Тарас на Парнасе" (пад назваю "Тарас"), а таксама тут былі надрукаваны краязнаўчыя і этнаграфічныя даследаванні А. Багдановіча "Нарыс становішча жанчын у асяродку беларускага краю", "Педагагічныя погляды беларускага народа", "Погляды беларусаў на святы Вялікадня", М. В. Доўнара-Запольскага "Ад Кіева да Рагачова: Дарожныя нататкі", "Доктар Францыск Скарына" ды іншыя творы розных аўтараў. Газета змяшчала матэрыялы пра мясцовыя выставы выяўленчага мастацтва, асвятляла працу Менскага таварыства аматараў прыгожых мастацтваў, музычнае і тэатральнае жыццё горада.

У 1902 годзе яна былаператворана ў газету "Северо-западный край".

*Язэп Палубятка.*

## Івану Чыгрыну – 70 гадоў

Іван Пятровіч Чыгрын нарадзіўся ў вёсцы Чамяры на Слонімшчыне 10 красавіка 1931 года. Пасля школы паступіў у БДУ, а пасля яго заканчэння працаваў настаўнікам. Затым была аспірантура ў Інстытуце мовазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН Беларусі. Падчас навучання прымаў удзел у палявых экспедыцыях, у якіх сабраў дастаткова матэрыялаў па народнай славеснасці, абараніў кандыдацкую дысертацыю па філалогіі. З 1961 года па 1991-шы працаваў у Інстытуце літаратуры імя Я.Купалы АН Беларусі. Друкавацца пачаў у 1959 годзе. Шчыльна даследаваў фальклорды яго ўплыў на літаратуру. З гэтае нагоды пабачылі свет такія творы "Ядвігін Ш. і фальклор", "Максім Гарэцкі і фальклор" ды іншыя.

Даследаванне ім гісторыі беларускай літаратуры пабачылі свет у манаграфіях "Станаўленне беларускай прозы і фальклору. Дакастрычніцкі перыяд", "Проза Маладняка": дарогамі сцверджання", "Крокі", "Проза "Узвышша", "Рэальнае і магчымае: проза Я. Коласа: "Паміж былым і будучым: проза Максіма Гарэцкага". Івана Чыгрына вабіць не толькі фальклор і крытыка, але ён піша і сам. Выдадзены два зборнікі вершаў "Канепе" ды "Трыба". Ім таксама была складзена хроніка літаратурнага жыцця Беларусі, якая ўвайшла ў "Гісторыю беларускай літаратуры".

У юбіляра зайздроснае творчае актыўнасць. Ён падрыхтаваў і выдаў "Выбраныя творы" Ядвігіна Ш. 4-ты том Збору твораў Янкі Купалы, анталогію апавяданняў "Маладняка" і "Веснаход". Да апошняй кнігі Іван Чыгрын напісаў уступ і зрабіў каментар, з іншымі аўтарамі друкаваўся ў калектыўных зборніках. "Гісторыя беларускай савецкай літаратуры", "Беларуская літаратура і праблемы сучаснасці" ды іншых.

"Наша слова" зычыць Івану Пятровічу натхнення і плённага даўгалецця.

*Язэп Палубятка.*

### Намесніку старшыні прэзідыюму Беларускага таварыства дружбы і культурнай сувязі з замежнымі краінамі Івановай Н. С.

**Паважаныя сябры!**

ТБМ імя Ф.Скарыны віншуе вас з 75 гадавінай утварэння вашай шаноўнай арганізацыі, ля вытокаў якой стаялі вядомыя беларускія пісьменнікі, славутыя дзеячы беларускай культуры і навукі.

Мы жадаем вам і надалей распаўсюджваць па ўсяму свету праўдзівыя веды пра Беларусь, яе мову, гісторыю і культуру.

*Старшыня ТБМ імя Ф.Скарыны А. Трусаў.*

# Дзяржава і фальклор: свае і чужыя

*(Заканчэнне. Пачатак у папярэднім нумары)*

Дазваляецца на конкурсе праспяваць тры песні, але такія, якія спяваюцца ў той мясцовасці адкуль калектыў прыехаў і, якія ніхто і ніколі не чуў. Тыя ж патрабаванні і для салістак з салістамі, і для конкурса "Вялікі-Малы", дзе, якаянебудзь бабуля навучае народным песням сваю ўнучку, ці цэлы дзіцячы калектыў. Пры тым бабуля ці дзядуля праспяваюць палову песні, а дзеці павінны яе закончыць. Але часам бывае так, што з дзяцей хтонебудзь добра спявае і хоча паспрабаваць свае сілы на конкурсе ў якасці саліста, тады такі "Юны Талент" сам шукае бабулю-спявачку, і яны рэпетуюць і, калі праходзяць адборныя туры, з'яўляюцца на сцэне Казімежа.

Тры найгрышы на конкурсе выконваюць таксама музыкі-адзіночкі: гарманісты, баяністы, цымбалісты, скрыпачы альбо вясковыя ансамблі народнай музыкі, спевы пры гэтым не прысутнічаюць, існуе таксама конкурс анекдотаў. Хачу адзначыць, што ўся Польшча на розных узроўнях народныя песні на фальклорных фестывалях выконвае без суправаджэння музычных інструментаў і самае цікавае, што гледачы гадзінамі іх слухаюць і нікуды не ўцякаюць.

Хачу крыху адыйсці ад тэмы і сказаць, што ў нас ЛЕПШ у параўнанні з Польшчай.

У Полыпчы няма вучылішчаў мастацтваў і універсітэта культуры, але дамы культуры ёсць і якога ўзроўню кадры ў гэтых установах, - мне цяжка судзіць, можна толькі здагадвацца, тут "куюць" кадры і то ёсць брак, несумненна, а калі наогул не "куюць"? Пытанне з многімі пытальнікамі.

Пры першым знаёмстве з польскай прафесурай і студэнтамі ў размове аб адукацыі мне давялося сказаць, што скончыла я інстытут культуры, але тое, што я сказала, ім ні аб чым не гаварыла, таму што тэрмін "інстытут" у іх ужываецца ў 2-х выпадках: 1) "інстытут" – гэта якая-небудзь спецыялізацыя ва універсітэце. 2) "інстытут" – курсы па якому-небудзь навучанню. Таму прызнаваць мяне, як паўнацэннага калегу, пачыналі значна пазней, калі прыязджалі ў "Прагрэс" і бачылі мае работы. Тады мне казалі: "Nie wyobrazasz sobie, jaka masz glowe na barkach" (не ўяўляеш сабе, якую маеш галаву на плячах) – і пачыналі распытваць, чаму ўсё ж мяне навучалі ў маім інстытуце. Даводзілася дэталёва ўзгадваць усе прадметы. У Польшчы ёсць цікавая тэндэнцыя ў галіне культуры, якая, на мой погляд, заслугоўвае ўвагі. Там націск робіцца на тое, каб перадаваць народную творчасць і народнае майстэрства "з рук у рукі" і "з вуснаў у вусны". Напрыклад, ёсць майстры з народу: скрыпачы, цымбалісты, гармапісты, спявачкі, ткачыхі, адным словам, народныя майстры, якія перадаюць сваё ўменне маладым, а над імі самымі апякуецца дзяржава і, мяркуючы па тым, што я ўбачыла на фестывалі фальклору, то такі метад вельмі эфектыўны. Я не за тое, каб сёння на Беларусі ўзяць і скасаваць навучальныя ўстановы па культуры і пусціць усё на самацёк, з нашай абыякавасцю да ўсяго свайго, усё сваё тут жа і загіне, але лепшае ад палякаў можна было б і пераняць.

Я ізноў варочаюся да 30-га фестывалю фальклору ў Польшчы.

А якія там былі народныя строі?! Строі кожнага рэгіёну павінны быць толькі "з-пад кроснаў" гэта значыць – даматканыя, такое патрабаванне фестывалю. Можна толькі ўявіць сабе, на якім узроўні там ткацтва! Падчас выступлення цэнтральнае польскае тэлебачанне вядзе запіс фестывалю. Пасля выступлення канкурсантаў незалежна ад таго, якое яны месца займаюць, іх запісвае радыё, і ўсе запісы застаюцца ў фондах, як радыё, так і тэлебачання варшаўскага з года ў год. Акрамя гэтага, вядуць запісы фальклору і рэгіянальныя тэлерадыёстудыі, пазней запісваюцца касеты, а ў час фестывалю выдаюцца газеты з сяброўскімі шаржамі на кожны калектыў. У кожнай намінацыі прысуджаюцца па тры салідныя грашовыя прэміі – башты. Трэба адзначыць, што трое вядучых: два мужчыны і жанчына ў нацыянальных строях падчас вядзення выкідвалі такія "конікі", што нідзе яшчэ я такога не чула і не бачыла. Вось гэта былі жарты! А як радаваліся пераможцы, якія потым выступалі ў заключным канцэрце! На заключным канцэрце 30-га Усяпольскага фестывалю фальклору прысутнічаў Палад Бюль-Бюль-Аглы. Я яшчэ падумала, што міністр культуры Беларусі, магчыма, і не падазрае, якія фантастычны фальклорны фестываль праходзіць у Польшчы, а міністр культуры Азербайджана – жаданы госць. І пры чым тут Азербайджан да Польшчы? Забылася сказаць, перад фестывалем праходзіць салідная прэс-канферэнцыя з членамі журы, а паміж намінацыямі на конкурсе выступалі лепшыя фальклорныя калектывы з абрадавымі прадстаўленнямі, сцэна была аздоблена вясковым плотам – частаколам і гіганцкімі выцінанкамі, а на галоўнай плошчы Казімежа правілі баль шыкоўныя выставы народнай творчасці з усёй Польшчы.

Старшынёй журы быў ужо вядомы Вам Ян Стэншэўскі, надзвычай адукаваны, інтэлігентны і адказны да педантызму чалавек, напалову паляк, напалову немец. На працягу тыдня я не бачыла на вуліцах фестывальнага Казімежа ніводнага п'янага чалавека, а цяпер давайце ўзгадаем, што робіцца ў гэтым сэнсе ў нас на Беларусі, на нашых культурных мерапрыемствах, чым-чым, а цвярозасцю нам хваліцца не даводзіцца.

На юбілейны 30-ты фестываль былі запрошаны калектывы з Беларусі, Чэхіі, хтосьці яшчэ быў, але я ўжо не памятую, памятаю толькі, што былі ў якасці гасцей запрошаны польскія калектывы – пераможцы мінулых гадоў, затым пазаконкурсныя калектывы ў якіх прысутнічаюць адначасова музыка і спевы. Я заўважыла адну акалічнасць: у народных ансамблях мог быць бубен, гармонік і пяць альбо восем скрыпак. Уявіце сабе, якая гэта магла быць народная музыка, што тычыцца мяне, то я была, як на небе ад скрыпак, Яшчэ адна асаблівасць фестывалю – Усяпольскі фестываль фальклору настолькі аб сабе заявіў за гэтыя гады, што падчас фестывалю ў Казімеж Дольны з'язджаецца самая "сцільная" моладзь, а так, як гарадок невялікі, гасцей размясціць і то ёсць складанасці, то моладзь, якая едзе, бярэ з сабой спальныя мяшкі і начуе ў гэтых мяшках на вуліцах Казімежа, праўда, спаць ёй даводзіцца мала, бо культурная праграма (фальклорная) цягнецца далёка за поўнач, на цэнтральнай плошчы мора люду, канцэртная пляцоўка, дзе выступаюць фальклорныя ансамблі, ачэплена ветлівымі паліцянтамі і драўлянай перагародкай, каб не было ў фальклорных калектываў эксцэсаў з паклоннікамі, бо пад скрыпкі і народныя песні моладзь у Польшчы "дурэе" мудрэй, чым у нас пад "цяжкі рок". А тэлебачанне, між іншым, усё працуе і працуе. Ох і натанцавалася ж я!!! Дык так, што ўсё жыццё буду памятаць Казімеж Дольны.

Казімеж Дольны – гэта не адзіны горад у Польшчы, дзе праводзіцца фестываль польскага фальклору. Ёсць шэраг буйных гарадоў у якіх праводзяцца розныя фальклорныя фестывалі, напрыклад, фестываль фальклору для палякаў з усяго свету. Я таксама была запрошана, пасля Казімежа, на такі фестываль, але, на жаль, не патрапіла (па розных прычынах) выехаць. Ёсць фестывалі народнай культуры для прадстаўнікоў з Крэсаў – гэта ізноў для нас. Гэта тое нямногае, што мне ў гэты момант прышло на памяць.

Як Вы думаеце, Васіль Дзмітравіч, ці загіне нацыя, якая так апякуецца над уласным фальклорам? Я думаю, што не!

Калі я ў Казімежы Дольным размаўляла з доктарам Стэншэўскім, падчас фестывалю, то ён пытаўся пра мае ўражанні, ці падабаецца мне 30-ты Усяпольскі фестываль фальклору. Я была ў захапленні ад глыбіні і прафесіялізму фестывалю, і шчыра выказала свае ўражанні, зайздросціла такому высокаму падыходу палякаў да свае спадчыны і засмучалася, што на Беларусі такое можа толькі прысніцца. На развітанне прафесар Стэншэўскі папрасіў: "Раскажы пра Казімеж Дольны на Беларусі". Вось я і расказваю Вам, Васіль Дзмітравіч. У 1996 годзе пасля Казімежа я давала інтэрвію Гарадзенскаму радыё, дзе расказвала пра 30-ы Усяпольскі фестываль, і пасля гэтага гарадзенскія людзі мне казалі, быццам бы фальклорная экспедыцыя з Гарадзенскага універсітэта збіраецца на Беласточчыну па песні. Як было на самай справе, я не ведаю, але добра было б, каб так сталася.

Расказвала я пра размах фальклорнага руху ў Польшчы і некаторым таварышам з Менска. Мне гаварылі ў адказ рознае, маўляў, Польшча багацейшая за нас, яна можа сабе гэта дазволіць і г. д. А я думаю, што ў нас грошай не было, няма, і, магчыма, ніколі не будзе, але за штосьці мы, усё ж такі кожны год, ладзім "Дажынкі", "Славянскія базары", "Магілёўскія шлягеры" і г. д., будуем у кожнай вобласці Лядовыя палацы і някепска ў нас гэта атрымліваецца і грошы знаходзяцца. І яшчэ мне здаецца, што Польшча багацейшая за нас не столькі фінансамі, але перш за ўсё разумнымі людзьмі, бо прыйшло ж нейкаму неабыякаваму польскаму сэрцу да галавы прыдумаць такі сапраўды патрыятычны фестываль, фестываль фальклору, фестываль душы свайго народа і больш за 30-ць гадоў даваць яму жыццё, разумеючы наколькі гэта важна, а не тое, што наша Беларускае тэлебачанне, стараючыся быць модным, павыкарчоўвала з эфіру ўсе фальклорныя перадачы, панавыпускала на экран новавыпечаную сваю эстраду featнага гатунку, ды каб толькі сваю, апошнім часам яшчэ амерыканская негрыцянская апоўначы вылазіць і плюс тупыя амерыканскія баевікі. Ашалець можна ад амерыканскага "інтэлекту" і "нацыянальнай свядомасці" прадстаўнікоў 1-га Беларускага Нацыянальнага канала. Гэтыя прадстаўнікі апусціліся да таго, што фальклорныя калектывы параноўваюць з апазіцыянерамі і, калі Казіятка і далей будзе нас так дзяўбсці і скубці, то, грэшнай справай, мы можам імі і стаць, гэта ж не доўга зрабіць. Падчас размовы пра фестываль польскага фальклору са сваімі знаёмымі з Менску, я прыйшла да такой высновы, каб што-небудзь падобнае правесці ў Беларусі ў галіне фальклору, мне здаецца, што ў Менску няма чалавека такога ўзроўню, як Ян Стэншэўскі ў Варшаве і Пазнані. Калі я памылюся, я буду вельмі рада. Можа нашым мінскім фалькларыстам, каб пацягнуць фальклорны пласт на ўзроўні ДЗЯРЖАВЫ і хапіла б ведаў і розуму, а вось аўтарытэту асабістага, неабыякавасці, настойлівасці і, галоўнае, мужнасці, каб адстойваць гэту праблему не толькі на ўзроўні Міністэрства культуры, але і на ўзроўні парламенту і прэзідэнта і, каб пры гэтым цябе пачулі, і прафінансавалі, то хіба не. За гады працы ў галіне культуры і падчас сустрэч са сваімі калегамі на розных узроўнях, я зразумела адну рэч: работнікі культуры ўсяго на свеце баяцца, нават тады, калі вельмі добра робяць сваю справу і абсалютна ні ў чым не вінаватыя. Таму, напэўна, мы па вялікаму рахунку нічога не маем: ні высокага рэйтынгу прафесіі, ні заробку, ні прэстыжных фальклорных фестываляў.

Мяне вельмі цікавіць, што будзе з "Вячоркамі". Сарока на хвасце прынесла, што з "Вячорак" у Менску хочуць зрабіць штосьці, накшталт расейскай перадачы "Эх, Сямёнаўна".

Васіль Дзмітравіч, вы ж бываеце на тэлебачанні і, калі гэта праўда, то пры аказіі перадайце музычнай рэдакцыі, што перш чым народу беларускаму штосьці насаджваць, то трэба яго добра ведаць. Бо, калі ў Расеі мат-перамат – гэта аказваецца нармальна ў фальклоры, то наш народ ад сівой даўніны больш цнаваты і чысты на словы, і матныя прыпеўкі пры запісах беларускага фальклору сустракаюцца нягуста, але, калі яны і сустракаюцца, то "сорамныя" словы не выгаворваюцца, замяняюцца іншымі і нявартa вешаць яшчэ адзін бруд на беларускага чалавека, нават, калі ў цяперашні час усё зраўнялася: і п'янства, і мацярок ужо пышнай кветкай красуюць і на нашай зямлі!

Мінуў 2000-ы год. Для мяне 2000-ы год быў годам напісання лістоў у абарону перадачы "Запрашаем на вячоркі" на 1-шы Беларускі Нацыянальны тэлеканал. Пісала не толькі ад свайго імя, але і ад імя прагрэсаўцаў, "заканадаўцаў моды" у сельскай гаспадарцы ва ўсёй Беларусі і гэта на сённяшні дзень факт. Людзі ставілі свае подпісы, але хто сёння на беларускай зямлі паважае беларускі народ? На першы ліст быў дадзены пусты, павярхоўны адказ, на ўсе астатнія глыбокае маўчанне да сённяшняга дня, а калі я званю ў Менск, то кажуць, што мае лісты не дайшлі, я здагадваюся чаму яны "не дайшлі", але няхай гэта будзе на сумленні "функцыянераў ад тэлебачання", яны ж не вечныя там, можа лепшы час для "Вячорак" і беларускага фальклору яшчэ наперадзе, хто ведае, але ў адным упэўнена, што не можа быць такога, каб ён не прыйшоў наогул. А каб мяне, нарэшце, пачулі, то гэты ліст пасылаецца ў некалькіх экзэмплярах у розныя інстанцыі.

З павагай,

***Тарэса Адамовіч,***
*рэжысёр фальклорнага тэатра "Матуліна песня" СКП "Прагрэс" Гарадзенскага раёна.*

**Рэдактар Станіслаў Суднік**

***Заснавальнік:***
ТБМ імя Францішка Скарыны.
***Пасведчанне аб рэгістрацыі:***
№ 83 ад 28 чэрвеня 1996 г.
***Адрас рэдакцыі:***
220005, г. Менск, вул. Румянцава, 13.
***Адрас для паштовых адпраўленняў:***
231300, г. Ліда-2, п/с 7.
***E-mail:*** ns@lida1.lingvo.grodno.by

***Рэдакцыйная калегія:***
Людміла Дзіцэвіч, Алесь Гурыновіч, Ірына Марачкіна, Леакадзія Мілаш, Язэп Палубятка, Алесь Петрашкевіч, Уладзімір Содаль, Станіслаў Суднік, Павел Сцяцко, Алег Трусаў.

***Аўтары цалкам адказныя за падбор і дакладнасць прыведзенай інфармацыі***

Газета надрукавана ў Лідскай друкарні.
231300, г.Ліда, вул. Ленінская, 23.
Газета падпісана да друку 16. 04. 2001 г.
Наклад 4600 асобнікаў. Замова № 967.
***Падпісны індэкс:*** 63865.
***Кошт падпіскі:*** 1 мес.- 242 руб., 3 мес.- 726 руб.
***Кошт у розніцу:*** 70 руб.